ISSN 1991–7155
9 771991 715006 20

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень 27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

18 мая 2018 года №20 (1203)

# Міхаілу Казінцу – 80!



Пра свой першы гармонік і пра Чырвоную Зорку Героя Савецкага Саюза на ўласных грудзях маэстра распавёў карэспандэнту "Рэгіянальнай газеты"

старонкі 20-21

Фота Юрыя ІВАНОВА.

## Чым здзівіць сёлетні фестываль "Гальшанскі замак"

АШМЯНЫ

**Фестываль сярэднявечнай культуры "Гальшанскі замак" пройдзе ў аграгарадку Гальшаны Ашмянскага раёна ля сцен былога замка Сапегаў 26 мая.**

**У праграме:**

- рыцарскія і конныя турніры, спаборніцтвы лучнікаў;
- майстар-клас па сярэднявечных танцах (тэатр гістарычнага танца "SOLEIL" і дуэт "ДЗІВАБОР", г. Мінск);
- паказальныя выступленні клуба гістарычнай рэканструкцыі "ШАТЛАНДСКАЯ ПЯХОТА" і групы шабельнага фехтавання "REBELIA";
- тэатралізаванае коннае шоу "Бітва на сініх водах" (конна-гістарычны клуб "ЗАЛАТАЯ ШПОРА" і ваенна-гістарычны клуб "СЕКЕРЖ", г. Мінск);
- спектакль "Danza-Macabra, ці Гісторыя пра тое, як аднойчы Смерць вырашыла ўзяць адпачынак" вулічнага тэатра "ВІР" (г.Мінск);
- майстар-клас па хадзьбе на хадулях (вулічны тэатр "ВІР" (г. Мінск).
- Для гасцей фестывалю будзе працаваць горад майстроў, а для дзяцей – атракцыёны.

У фестывалі прымуць удзел беларускія гурты IRDORATH, PAWA, VURAJ. Заключнай часткай фестывалю стане вогненнае шоу вулічнага тэатра "ВІР" (г. Мінск) і феерверк.

Спасылка ў інтэрнэце: vk.com/event139718260 (можна абмеркаваць транспарт).

**Месца правядзення: Гальшанскі замак, аграгарадок Гальшаны Ашмянскага раёна Гродзенскай вобласці. Пачатак: 26 мая 2018 года ў 12:00.**

Увага! У дзень фестывалю для арганізаваных турыстычных груп доступ да руін замка будзе дазволены з умовай набыцця білета на мерапрыемства.

Аддзел інфармацыі.

## У ліпені археолагі правядуць раскопкі Ільянскай гуты

ВІЛЕЙКА

Сёлета ў чарговы раз сталічныя даследчыкі-археолагі прыедуць у Ілью, каб даследаваць месца, дзе ў другой палове 18 стагоддзя працавала гута – завод па вырабе шкла. Пра ранейшыя раскопкі старажытнага прадпрыемства "Рэгіянальная газета" пісала летась.

Экспедыцыю правядуць 10-30 ліпеня ў межах вучэбнай археалагічнай практыкі гістфака БДУ, распавяла адна з кіраўнікоў выкладчыца БДУ **Паліна Курловіч-Бяляўская**.

Жыць удзельнікі экспедыцыі будуць у кемпінгу на беразе ракі Іліі на ўскраіне вёскі.

Плануюць разабраць і апрацаваць аб'екты вытворчай пляцоўкі прадпрыемства. Будуць экскурсіі, адукацыйныя і культурніцка-забаўляльныя мерапрыемствы.

Ахвотныя паехаць у якасці валанцёраў, звязвайцеся непасрэдна з кіраўніцтвам для абмеркавання ўсіх умоў. Паведамляйце тэрміны ўдзелу, а таксама, ці ёсць у вас свой намёт.

Запісвайцеся! Будзе цікава і весела!

З Палінай Курловіч-Бяляўскай можна звязацца ў сацыяльных сетках.

Аксана ЯРАШОНАК.

## У Ракаве правядуць фестываль керамікі

ВАЛОЖЫН

**Фестываль керамікі "Тэракот" зладзяць у Ракаве ад 12:00 да 21:00 у суботу, 19 мая.**

У праграме – выступленні музычных калектываў рэгіёна. Будзе працаваць рагатачны цір. Усе ахвотныя змогуць паспрабаваць сябе ў ролі майстроў-ганчароў, таксама распісаць ужо гатовыя вырабы.

Арганізуюць лепку з гліны для дзяцей, прадэманструюць аўтарскія ганчарныя вырабы.

Аддзел інфармацыі.



Сяргей і Жанна шукаюць працу. Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

# "Лепш камп'ютар вывучаць, чым за капейкі посуд мыць"

## Як у новым фармаце прайшоў кірмаш вакансій

ВІЛЕЙКА

**На прадпрыемствы Вілейшчыны патрабаваліся прадавец, буфетчык, тынкоўшчык, трактарыст, повар, кухонны рабочы.**

11 мая на кірмашы вакансій у Цэнтры занятасці прапаноў ад працадаўцаў было шмат. А вось шукальнікаў – малавата.

– Першы раз мы вырашылі правесці кірмаш вакансій у новым фармаце, – расказала начальнік аддзела занятасці **Тацццяна Цітуленка**. – Раней проста збіралі людзей у зале. А цяпер у фае паставілі сталы і запрасілі працадаўцаў, у якіх ёсць вакансіі. Ад 11:00 да 13:00 шукальнікі могуць зайсці ў фае, знайсці арганізацыю, што іх цікавіць, і адразу ж параўмаўляць з працадаўцам.

### "Буду чакаць восені, каб паехаць на курсы"

Месцы за столікамі для працадаўцаў занялі прадстаўнікі ПМК-88, ДЭУ-63, вілейскай ЖКГ, КУП "Садружнасць", райспажывтаварыства, цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, аддзела адукацыі, спорту і турызму Вілейскага райвыканкама, лясгаса.

У летнік "Лясная казка" шукалі сезонных работнікаў: повараў, мыйшчыка посуду. Калі ёсць адукацыя, то і культарганізатара. Работніка бяруць на змену – 18 дзён.

– Колькі за дзень я буду атрымліваць, калі пайду мыць посуд? – пыталася ў прадстаўніка аддзела адукацыі, спорту і турызму **Алены Рослік** віляйчанка **Жанна**.

Аказалася, каля дзесяці рублёў. Такі заробак жанчыну не задаволіў. Тым больш, з Вілейкі ў Глінное кожны дзень трэба ездзіць за свае грошы. Праезд не кампенсуюць.

– Чым за капейкі посуд мыць, лепш праз Цэнтр занятасці на камп'ютарныя курсы запісацца, – падзялілася Жанна. – Восенню набіраюць групу вучыцца ў Мінску чатыры месяцы, пражыванне бясплатнае. І сімвалічную стыпендыю будуць плаціць, і добры інтэрнат дадуць бясплатна. Атрымаю спецыяльнасць "аператар ЭВМ з элементамі вёрсткі, дызайну і графікі".

Шэсць год Жанна не працавала, даглядала хворую маму. Таму веды камп'ютара – якраз тое, што трэба. Нагонішь згублены час.

### Галоўнае – жаданне, а працаваць навучым

**Іна Чарнуха**, начальнік аддзела працы ЖКГ, прапаноўвала вакансіі трактарыста і тынкоўшчыка. Трактарысту абяцаюць заробак каля 450 рублёў. У тынкоўшчыка – заробак здзельны.

Райспажывтаварыству трэба прадавец у Сосенку і ў летняе кафэ ў Вілейцы, буфетчык у Любань, кладаўшчык на базу гародніны і кіроўца.

– Ці абавязковая адукацыя прадаўца? – пытаецца **Вольга** з Вілейкі.

> **– Усяму навучым. Галоўнае – сумленне і жаданне працаваць. Лічыць жа ўмееце. А ў дапамогу калькулятар дадуць. Трыста рублёў дакладна атрымаеце,– адказвае прадстаўніца арганізацыі і запісвае дадзеныя шукальніцы.**

**Антаніна** ў гандаль ісці не хоча, бо не мае досведу. Але жанчыну зацікавіла вакансія кладаўшчыка на базе гародніны. Збіраецца паехаць на месца, каб паглядзець базу. З мінулага месца працы звольнілася, бо не задавальняў графік.

### З бруднага Наваполацка едуць у чыстую Вілейку

**Сяргей** думае з сям'ёй пераехаць з Наваполацка ў Вілейку, да маці.

– З забруджанага горада хочацца ў чысты, – кажа мужчына. – Прыйшоў, бо хачу даведацца, якая праца ёсць для мяне, інжынера-будаўніка з вышэйшай адукацыяй, і сына, які паспяхова працуе ў Наваполацку ў буйной гандлёвай сетцы.

Усяго на кірмаш прыйшло каля 20 шукальнікаў. А вакансій прапаноўвалі значна больш.

**На стэндзе ў фае Цэнтра занятасці іх увогуле 200.**

Толькі ў Вілейскую раённую бальніцу патрэбныя два гінеколагі, чатыры тэрапеўты, анестэзіёлаг, педыятр. Заробак ад 320 да 380 рублёў.

– Бачыце, і працадаўцам не проста работніка знайсці, – падсумавала вынікі новафарматнага мерапрыемства Тацццяна Цітуленка. – Сённяшні кірмаш вакансій быў пробным варыянтам. Але мы лічым такі фармат прымальным. Раз на квартал такія кірмашы будзем праводзіць дакладна, а то і часцей.

Аксана ЯРАШОНАК.

БЕЛАРУСЬ - ГЕРМАНІЯ



Падчас наведвання цэнтра тэрытарыяльнага абслугоўвання насельніцтва. Фота забяспечанае Таццянай МАЙСАК.

# "Надзея" прымала ўдзельнікаў тыдня сяброўства

ВІЛЕЙКА

**9 мая завяршыўся дзевятнаццаты беларуска-вестфальскі тыдзень сяброўства.**

Сёлета нямецкіх гасцей прымалі ў дзіцячым рэабілітацыйным цэнтры "Надзея". Акрамя цэнтра, арганізатарамі мерапрыемства тыдня з беларускага і нямецкага бакоў былі грамадскія арганізацыі, таварыствы, буйныя холдынгі.

Як распавяла **Таццяна Майсак**, спецыяліст па сувязях з грамадскасцю "Надзеі", праект "Тыдзень сяброўства" стаў пераемнікам тыдня "Экалогія без межаў", які на працягу многіх гадоў праводзілі ў Беларусі і Германіі па чарзе. За гады сумеснай працы ўдзельнікі мерапрыемстваў атрымалі багаты досвед у галіне захавання і абароны навакольнага асяроддзя, у галіне ўстойлівага развіцця.

На думку арганізатараў, правядзенне такога міжнароднага праекта ўмацоўвае сяброўскія кантакты і неабходныя дзелавыя сувязі, дазваляе ўсвядоміць, што трэба рабіць для таго, каб берагчы прыроду і ўласнае здароўе.

Тэму сёлетняга міжнароднага тыдня вызначылі так: "Умовы сацыялізацыі найбольш уразлівых катэгорый насельніцтва ў Рэспубліцы Беларусь".

– Прадумваючы тэму, мы хацелі звярнуць увагу на тых людзей, што больш уразлівыя ў сучасным свеце, – кажа Таццяна. – На тых, хто мае патрэбу ў абароне, падтрымцы з боку дзяржавы, грамадскіх аб'яднанняў і проста неабыякавых людзей.

Падчас знаходжання ў "Надзеі" ўдзельнікі паразмаўлялі з дзецьмі, якія якраз былі на аздараўленні ў цэнтры. Нямецкія госці наведалі Вілейскі райвыканкам, дзе іх сустрэла **Святлана Дзяруга**, намеснік старшыні райвыканкама, якая курыруе сацыяльную сферу на Вілейшчыне.

Старшыня грамадскага аб'яднання "ЗОВіК" **Таццяна Цітуленка** распавяла гасцям, як за замежныя гранты актывісты добраўпарадкуюць Вілейку, паказала скейт-парк і спартыўныя пляцоўкі.

У Вілейскім цэнтры тэрытарыяльнага абслугоўвання насельніцтва **Іна Шохціна** пазнаёміла гасцей з працай установы. Немцы пабывалі ў аддзяленні дзённага знаходжання і пражывання інвалідаў, сустрэліся з маладымі людзьмі з абмежаванымі магчымасцямі.

Разам яны правялі час на базе адпачынку на беразе Вілейскага вадасховішча.

За тыдзень быў час выехаць і за межы Вілейскага раёна. Госці наведалі музеі ў сталіцы, аграгарадок Гервяты на Астравеччыне, парк-музей інтэрактыўнай гісторыі, пазнаёміліся з гісторыяй і культурай Беларусі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Маладзечанскі малочны камбінат далучылі да Мінска

МАЛАДЗЕЧНА

**На пазачарговым агульным сходзе акцыянераў ААТ "Маладзечанскі малочны камбінат" прынялі рашэнне аб рэарганізацыі кампаніі шляхам далучэння да ААТ "Мінскі малочны завод №1".**

Пра гэта гаворыцца ў паведамленні назіральнага савета ўстановы. Артыкул 78 закона "Аб гаспадарчых таварыствах" прадугледжвае права акцыянера патрабаваць ад акцыянернага таварыства абавязковага выкупу акцый, пры гэтым усталёўвае, колькі грошай накіраваць на выкуп такіх акцый.

Гэта сума не можа перавышаць 10% кошту чыстых актываў таварыства. Кошт чыстых актываў малочнага камбіната на дату прыняцця рашэння аб рэарганізацыі мае адмоўнае значэнне, таму ў таварыства няма праў для выкупу акцый па патрабаванні яго акцыянераў, растлумачылі ў назіральным савеце.

Акцыянерамі кампаніі з'яўляюцца 25 юрыдычных асоб і 1451 фізічная. На прадпрыемстве працуе 884 чалавекі. Асноўныя віды прадукцыі – цвёрдыя і паўцвёрдыя сыры, масла, натуральная малочная прадукцыя.

За мінулы год выручка камбіната склала 151,3 мільёна рублёў. Чыстая страта – 16,8 мільёна. Доўгатэрміновыя крэдыты і пазыкі перавышаюць больш за 90 мільёнаў рублёў.

ААТ "Маладзечанскі малочны камбінат" стварылі ў 2009 годзе, калі да Маладзечанскага гармалзавода далучыліся Вілейскі гармалзавод, а таксама Нарачанскі і Валожынскі масласырзаводы.

На Мінскім малочным заводзе №1 працуе больш за 1288 чалавек. 83,55% акцый прадпрыемства знаходзіцца ў камунальнай уласнасці. Акцыянерамі завода з'яўляюцца 20 юрыдычных асоб і 889 фізічных асоб.

**Паводле tut.by.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 10.05 | 17.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2,0203 | **2,0031** |
| Еўра | 2,4056 | **2,3704** |
| Злоты, 10 | 5,6284 | **5,5051** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2082 | **3,2122** |
| Грыўня, 100 | 7,7022 | **7,6367** |
| Курсы ў "Банку БелВЭБ" | 8.05 | 16.05 |
| Еўра | 2.3850/2.4200 | **2.3500/2.3860** |
| Долар ЗША | 2.0000/2.0300 | **1.9950/2.0100** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 8.05 | 16.05 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 18,45 | **18,68** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | **2,98** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,98 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,30 | **4,10** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,20 | **1,20** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,60 | **1,50** |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,80 | **5,20** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,60 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 2,70 | **1,99** |
| Баклажаны, 1 кг | 6,00 | **6,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,70 | **1,60** (маладая) |
| Буракі, 1 кг | 0,30 | **1,80** (маладыя) |
| Капуста, 1 кг | 1,50 | **1,25** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | **2,20** |
| Морква, 1 кг | 1,30 | **1,10** |
| Памідоры, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Перац, 1 кг | 6,80 | **7,99** |
| Радыс, 1 кг | 1,80 | **1,00** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,89** |
| Часнок, 1 кг | 4,80 | **4,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **6,00** |
| Абрыкосы, 1 кг | 7,50 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,95 | **2,90** |
| Бананы, 1 кг | 2,40 | **2,39** |
| Вінаград, 1 кг | 5,50 | **5,70** |
| Гранаты, 1 кг | 5,50 | **7,00** |
| Грушы, 1 кг | 3,20 | **3,20** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,90 | **3,00** |
| Кавун, 1 кг | - | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Клубніцы, 1 кг | 7,50 | **12,00** |
| Лімоны, 1 кг | 4,80 | **4,80** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,90 | **1,89** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |

НАВІНЫ

## Затрымалі браканьераў

МЯДЗЕЛ

Раніцай 10 мая супрацоўнікі Дзяржінспекцыі аховы раслiннага і жывёльнага свету затрымалі жыхара вёскі Занарач, які сеткамі злавіў 57 штук рознай рыбы.

– Улоў заважыў усяго шэсць кілаграмаў, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" **Уладзімір Хіла**, намеснік начальніка Мядзельскай міжраённай інспекцыі. – А шкода - 5586 рублёў.

Праз некалькі гадзін ужо на іншым беразе Нарачы затрымалі яшчэ аднаго жыхара раёна. Сеткай ён вылавіў 33 рыбіны агульнай вагой 4,9 кілаграма. За гэта ён заплаціць 3600 рублёў.

Выклікалі супрацоўнікаў РАУС і раённага аддзела Следчага камітэта. Паколькі браканьеры нанеслі навакольнаму асяроддзю шкоду ў буйным памеры, следчыя ўзбудзілі крымінальныя справы. Цяпер парушальнікам пагражае або вялікі штраф, або пазбаўленне волі да трох гадоў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У ашмянца скралі 2000 рублёў, якія ён хаваў у машыне

АШМЯНЫ

У тым, што аўтамабіль не варта выкарыстоўваць у якасці сейфа, на сваім досведзе ўпэўніўся 25-гадовы жыхар Ашмянаў.

У маладога чалавека было каля 2000 рублёў. Чамусьці ён вырашыў, што надзейней захоўваць грошы ў старой "Аўдзі-100", чым дома. Купюры склаў у бардачку.

Раніцай 7 мая гаспадар убачыў, што аўтамабіль ускрылі. Адразу зірнуў у бардачок. Грошай там не было. Таксама зніклі дакументы, якімі іх прыкрылі.

Міліцыянеры змаглі аператыўна знайсці, хто скраў грошы і дакументы. Аказалася, што гэта 27-гадовы мясцовы жыхар. Ён падазраваў, што ў аўто можа быць прыстойная сума.

Падазраванага затрымалі.

**Паводле УУС Гродна.**



## За гадзіну знайшлі хлопчыка

МЯДЗЕЛ

У Кнізе заўваг і прапаноў Мядзельскага РАУС жыхарка райцэнтра пакінула словы ўдзячнасці ў адрас супрацоўнікаў міліцыі: "Вялікі дзякуй за ўдзел усім у пошуку майго сына. Чулыя і прафесійныя супрацоўнікі. Асабліва дзякуй **Таццяне Анатольеўне Харэвіч**".

Хлопчык пайшоў з дому, і яго месцазнаходжанне не было вядомае.

Дадатковую трывогу выклікала тое, што дзіця мае асаблівасці псіхічнага развіцця.

На пошук малалетняга "вандроўніка" накіраваліся ўсе работнікі, што былі ў той дзень на працы, падняты дадатковы магчымы рэзерв.

Не прайшло і гадзіны, як сына ўжо перадалі ўсхваляванай маці.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Справу "рабаўладальніка" перадалі ў суд

ВІЛЕЙКА

Жыхар адной з вёсак Вілейскага раёна ўтрымліваў сілай работніка і прымушаў яго працаваць на сябе бясплатна. Расследаванне крымінальнай справы скончылі, яе перадалі ў суд.

– Не маючы сталага заробку, 30-гадовы пацярпелы пачаў падпрацоўваць у прадпрымальніка два гады таму. Той стаў прымушаць мужчыну працаваць бясплатна. Абвінавачаны прыязджаў да работніка дадому ў суседнюю вёску, збіваў, запалохваў, выкрадаў і сілком прывозіў да сябе на ўчастак у багажніку аўтамабіля. Некалькі разоў утрымліваў работніка ўсю ноч у адрыне з дапамогай металічнага ланцуга з замком, – расказала афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Пацярпелы – жыхар адной з вёсак Вілейскага раёна – здолеў схавацца. Для гэтага яму давялося сысці з дому. Пасля гэтага сваякі звярнуліся ў міліцыю з заявай аб яго знікненні. Праваахоўнікі знайшлі зніклага на чыгуначным вакзале ў Віцебску. Да справы падключыліся супрацоўнікі аддзела па супрацьдзеянні гандлю людзьмі УУС Мінаблвыканкама.

– У прадпрымальніка забралі паляўнічую зброю, пашпарт на імя пацярпелага, – дадала прадстаўнік Следчага камітэта.

Прадпрымальнік знаходзіцца пад вартай. Крымінальную справу перадалі ў пракуратуру для накіравання ў суд.

**Паводле mlyn.by.**

# Муж наехаў на жонку трактарам. Жанчына памерла

ВІЛЕЙКА

**Трэцяга мая ў Хаценчыцах у сваім двары 58-гадовы мясцовы жыхар наехаў трактарам на сваю 57-гадовую жонку. Ад атрыманых траўмаў жанчына памерла ў бальніцы на наступны дзень.**

Фота selhoztehnik.com.

Следчыя дапускаюць, што трактар, які смяротна траўмаваў жанчыну, меў тэхнічныя няспраўнасці.

Здарэнне адбылося ўвечары. Муж і жонка хацелі зрабіць гаспадарчыя справы з дапамогай уласнага трактара.

Мужчына папрасіў, каб жанчына дапамагла яму прыладзіць да трактара прычэп. Жонка знаходзілася ззаду трактара, а кіроўца пачаў рухацца назад, не ўпэўніўшыся ў бяспецы.

У выніку муж наехаў на жонку. Пацярпелую 3 мая забралі ў бальніцу, а 4 мая яна памерла ад атрыманых траўмаў.

– Узбудзілі крымінальную справу па артыкуле "Парушэнне правілаў дарожнага руху". Не выключаем, што трактар быў тэхнічна няспраўны, – распавёў "Рэгіянальнай газеце" начальнік Вілейскага РАСК **Яўген Мягкоў**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Два рыбакі дакрануліся вудай да правадоў і загінулі

МАЛАДЗЕЧНА

Амаль пры аднолькавых абставінах і ў адным і тым жа месцы 7 і 9 мая на Маладзечаншчыне загінулі два рыбакі.

7 мая каля 18:30 дактары "хуткай дапамогі" патэлефанавалі ў міліцыю і паведамілі, што 54-гадовы мужчына, які рыбачыў на Бярэзіне на Маладзечаншчыне, смяротна траўмаваны электрычным токам.

Маладзечанец лавіў рыбу ў месцы, дзе праходзяць высакавольтныя лініі. У нейкі момант дакрануўся да правадоў вудай.

Ад удару токам ён загінуў на вачах у жонкі і сяброў, з якімі разам адпачываў.

Падобнае здарэнне адбылося 9 мая. З Беразінскай участковай бальніцы патэлефанавалі ў міліцыю і паведамілі, што да іх даставілі 35-гадовага жыхара Маладзечна, траўмаванага токам. Пацярпелы, якога даставіў сябар, ад атрыманых траўмаў памёр.

Аказалася, маладзечанец рыбачыў амаль у тым жа самым месцы, дзе яго папярэднік. І таксама дакрануўся вудай да правадоў.

– Следчыя ўстанавілі, што па берагах ракі стаяць інфармацыйныя таблічкі, якія папярэджваюць пра высакавольтныя лініі. Аднак маладзечанцы праігнаравалі гэту інфармацыю, – распавёў "Рэгіянальнай газеце" старшы следчы Маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Рыбак патануў на Васькаўскім вадаёме

МАЛАДЗЕЧНА

Маладога мужчыну знайшлі ў вадасховішчы каля вёскі Васькаўцы Маладзечанскага раёна вадалазы-выратавальнікі.

Пра тое, што ў вадасховішчы патануў чалавек, у службу выратавання паведаміў сведка 9 мая каля пяці гадзін вечара. Але выратавальнікі, якія прыехалі на месца здарэння, спачатку нікога не знайшлі.

– Стала вядома, што мужчына 1986 года нараджэння рыбачыў на вадасховішчы. У 18:12 вадалазы пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада Мінскага абласнога ўпраўлення МНС на адлегласці 45 метраў ад берага знайшлі і выцягнулі тапельца, – распавяла афіцыйны прадстаўнік Мінскага абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях **Анастасія Швайбовіч.**

**Паводле mlyn.by.**

## Віляйчанка набыла мабільнік, а грошы не аддала

ВІЛЕЙКА

14 мая следчыя завялі крымінальную справу на сям'ю віляйчан.

Па словах начальніка вілейскага РАСК **Яўгена Мягкова**, 24-гадовая жыхарка Вілейкі знайшла ў інтэрнэце аб'яву аб продажы мабільнага тэлефона за 160 рублёў. Яна звязалася з прадаўцом, жыхаром вёскі Старынкі, што на Вілейшчыне.

Пакупніца папрасіла ў мужчыны растэрміноўку і паабяцала, што расплаціцца за два месяцы. Напісала распіску. Але так і не разлічылася.

Па выніках праверкі следчых супраць віляйчанкі і яе мужа, які загадзя ведаў аб намерах жонкі, вілейскі РАСК узбудзіў крымінальную справу

Свае паводзіны муж і жонка патлумачылі тым, што ў іх узніклі цяжкасці з грашыма. Як стала вядома, тэлефоны пад распіску жанчына брала ў Мінску і Мінскім раёне. Грошы за іх не аддавала. Мясцовыя следчыя падраздзяленні таксама распачалі шэраг крымінальных спраў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Пенсіянерка з Маладзечна паехала на спатканне, а прыехала дамоў з разбітым тварам

ВІЛЕЙКА

10 мая 65-гадовая маладзечанка, пазнаёміўшыся па інтэрнэце з 71-гадовым мужчынам, паехала па запрашэнні на яго лецішча ў Вілейскі раён.

Па словах намесніка начальніка Вілейскага РАУС **Кацярыны Млечкі**, мужчына – удавец з Маладзечна – мае лецішча на Вілейшчыне, у Нароцкім сельсавеце. 10 мая ён запрасіў новую знаёмую да сябе на лецішча.

Праз дзень ён прывёз сваю госцю ў Маладзечна з гематомамі на твары і шыі. Жанчына звярнулася ў бальніцу.

Па версіі жанчыны, яна не пагадзілася на інтым. За гэта гаспадар яе пабіў, і ноч жанчына правяла на вуліцы. Прасіла, каб знаёмы адвёз яе дадому назаўтра, але той не хацеў садзіцца за руль, бо піў.

Мужчына ж сцвярджае, што блізкасці захацела госця, і ён мусіў адбівацца ад яе.

Цяпер міліцыя высвятляе сапраўдныя абставіны справы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Сустрэчы на папярэдніх праектах. Фота забяспечанае Лідзіяй КНЯЗЕВАЙ.

# “Яны так сумавалі, што самі званілі і пыталіся: калі вы нас запросіце?”

## Пасля гадавога перапынку ў Маладзечне зноў стартаваў праект, накіраваны на падтрымку людзей, што перажылі вайну

**Праект пад назвай “Крок насустрач” распачаўся на базе маладзечанскай СШ№5. Яго кіраўніком стала Лідзія Князева, заснавальніца клуба “Пошук” і ганаровая грамадзянка Маладзечна.**

Для яе гэта ўжо чацверты праект, звязаны з дапамогай сталым людзям.

Ён праходзіць пры фінансавай падтрымцы нямецкага фонду “Памяць, адказнасць, будучыня” ў межах праграмы “Месца сустрэчы дыялог”. Фонд быў заснаваны ў 2000 годзе ў першую чаргу для выплаты кампенсацый былым паднявольным работнікам. Пасля таго, як у 2007 годзе выплаты завяршыліся, фонд працягвае клапаціцца аб ахвярах нацыянал-сацыялізму.

– Як і ў мінулыя гады, мы хочам аб’яднаць розныя пакаленні, каб яны вучыліся адно ў аднаго, – кажа кіраўнік. – Школьнікі наведваюць дома тых, каму цяжка хадзіць самастойна. Калі сем’і сталых людзей не маюць нічога супраць, то школьнікі гатовыя і дапамагчы з прыборкай ў кватэры, і схадзіць за пакупкамі, і згуляць з пенсіянерамі ў настольныя гульні.

Сёлета для праекта набралі новых валанцёраў з вучняў старэйшых класаў СШ№5, бо былыя валанцёры ўжо скончылі школу.

Паколькі праект накіраваны ў першую чаргу на тых, хто нарадзіўся да 9 мая 1945 года, то колькасць яго ўдзельнікаў памяншаецца: некалькі чалавек ужо сышлі з жыцця. Але з’яўляюцца і новыя, якія дагэтуль не ведалі пра існаванне праектаў. Сёлета на заняткі па рукадзеллі ўжо завіталі чатыры новыя жанчыны.

– Нашы ўдзельнікі з папярэдніх праектаў вельмі сумавалі па нашых сустрэчах, званілі ў школу і пыталіся, калі іх зноў запросяць, – прыгадвае Лідзія Князева. – Таму сёлета на першую сустрэчу, прысвечаную рукадзеллю, прыйшлі з радасцю і так вязалі, вы б толькі бачылі! Тыя, хто не паспеў давязаць на занятках, нават забралі з сабой “дамашняе заданне”.

Паколькі “Крок насустрач” разлічаны на год, то на кожны сезон у ім запланаваныя мерапрыемствы і тэматычныя сустрэчы: летам удзельнікаў чакае актыўная праграма з выездамі на прыроду, восенню – заняткі па здаровым харчаванні, а зімой, вядома, навагоднія святы.

– Ужо зусім хутка ў нас адбудзецца канферэнцыя, прысвечаная Дню Перамогі, дзе будуць выступаць і сталыя, і маладыя ўдзельнікі, – кажа Лідзія Князева. – А лета мы распачнём з заняткаў па колера- і музыкатэрапіі.

Ідэя аб’яднаць розныя пакаленні маладзечанцаў за агульнай справай нарадзілася ў кіраўніка праекта яшчэ ў 2010 годзе і дагэтуль не страціла актуальнасці.

– Аднойчы я зразумела, што людзі, якія прайшлі праз вайну, – гэта тое, што трэба маладому пакаленню, – кажа яна. – Размаўляючы, робячы нешта разам, школьнікі шмат чаму могуць навучыцца. І цешыць, што гэта ўзаемна: нашы сталыя ўдзельнікі могуць павучыцца ў моладзі працы з камп’ютарам ці працы з архіўнымі дакументамі. Наладжваецца сувязь пакаленняў, і дзякуючы гэтаму нашы школьнікі лепей разумеюць сваіх бабуль і дзядуляў, а пажылыя ўдзельнікі – уласных унукаў.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

# У Батурыне паставілі стэнд у двары рэабілітаванай ахвяры рэпрэсій

**ВІЛЕЙКА**

**Вілейскія і чысцінскія актывісты паставілі інфармацыйны стэнд.**

Стэнд усталяваны на прыватным падворку **Ірэны Гадлеўскай**. Ён дастаўся ў спадчыну ад дзеда, **Уладзіміра Гейна**.

Уладзімір Антонавіч нарадзіўся ў 1901 годзе ў вёсцы Кацялі Лагойскага раёна. Неадукаваны. У 1921 годзе усёй радней таемна перайшлі савецка-польскую мяжу з савецкай Расеі ў польскае Батурына. Уладкаваўся на працу да пана **Кондрата Бароўскага**.

У 1939 годзе пасля прыходу бальшавікоў вымушаны быў працаваць у арганізаваным калгасе ў Лукаўцы. Але нядоўга. 2 верасня 1940 года па даносе быў арыштаваны як здраднік і польскі шпіён. Асуджаны 9 студзеня 1941 года да 8 год зняволення ў ППЛ, з якіх так і не вярнуўся.

Рэабілітаваны 16 чэрвеня 1989 года.

Для ўсталявання стэнда сёлета супалі тры круглыя даты, якія датычацца батурынскага касцёла і маюць сувязь з яго існаваннем. Першая – 155-годдзе паўстання Каліноўскага, пасля якога імперскі генерал Мураўёў-вешальнікператварыў Батурынскую ўніяцкую царкву ў праваслаўную. Другое – 100-годдзе абвяшчэння БНР каля касцёла. Трэцяя – 75-годдзе трагічнага канца існавання касцёла, які быў спалены фашыстамі ў 1943 годзе.

У мерапрыемстве па адкрыцці стэнда ўдзельнічалі краязнаўцы, грамадскія актывісты, мясцовыя жыхары Вілейшчыны і госці. Сярод арганізатараў – **Дзяніс Канецкі**, **Павел Хаванскі**, **Алесь Раткевіч**, **Леанід Кулеш**.

**Аддзел інфармацыі.**

# Карысныя мухі і драўляныя цацкі: на якія праекты выдзеліў грошы Еўрасаюз

**АСТРАВЕЦ, МЯДЗЕЛ, СМАРГОНЬ**

11 мая ў вёсцы Камарова на Мядзельшчыне правялі чацверты Стартап Уікэнда.

Свае бізнес-ідэі прадстаўлялі жыхары Мядзельскага, Астравецкага, Смаргонскага і Пастаўскага раёнаў, якія навучаліся ў школе сельскага бізнесу ў Камарове ад студзеня да красавіка.

У складзе журы былі бізнесмены, прадстаўнікі грамадскіх беларускіх і замежных арганізацый. Яны вызначылі, якія ініцыятывы атрымаюць падтрымку ад дзвюх да дзесяці тысяч еўра ад Еўрасаюза.

Вышэй за астатнія журы ацаніла ініцыятыву **Іллі Агаркава** па перапрацоўцы адходаў птушкафабрык у жывыя лічынкі мух (апарыш) і зоагумус. Прадпрымальнік плануе забіраць адходы з прадпрыемстваў на сваім транспарце і карміць імі спецыяльны від мух. Гэта дазволіць яму дапамагчы з утылізацыяй адходаў і забяспечыць зоамагазіны, рыбакоў і фермераў апарышам.

Вытворчасць размесціцца ў вёсцы Панара ў 14 кіламетрах ад Смаргоні. Калі прадпрымальнік зможа ажыццявіць свае планы, у будучым тут з’явіцца вытворчасць рыбы і ракаў.

**Дзмітры Івашанка** з Астраўца даўно вырабляе мэблю на заказ ва ўласнай майстэрні. Ён бацька траіх дзяцей, што і падштурхнула заняцца новым накірункам. Дзмітры плануе рабіць экалагічна чыстыя драўляныя цацкі. Вырабы ад брэнда “Тата Дзіма” змогуць набыць людзі з рознымі даходамі. Базавы набор будзе каштаваць каля 15 рублёў, больш пашыраны – 25-30.

**Юры Абрамовіч** з Мядзельшчыны пераканаў членаў журы ў тым, што ў пасёлку Нарач не хапае аўтакафэ са смачнымі блінамі для мясцовых жыхароў і турыстаў. Па апошніх дадзеных прадпрымальніка, у пасёлку за год бывае каля шасцідзесяці тысяч турыстаў, а месцаў грамадскага харчавання мала. Для рэалізацыі сваёй бізнес-ідэі прадпрымальніку не хапае толькі спецыяльнага аўтапрычэпа, які ён плануе набыць за грошы праекта.

**Паводле сайта ГА “Экапартнёрства”.**

# Далучайцеся да кірмашу праектаў

Любіце свой горад і ведаеце, як зрабіць яго больш прывабным для жыхароў і гасцей?

Марыце рэалізаваць свае творчыя амбіцыі? Прапануйце ідэю і знайдзіце аднадумцаў і партнёраў, каб яе ажыццявіць!

Грамадская культурніцкая кампанія “Будзьма беларусамі!” і Цэнтр даследавання грамадскага кіравання “СІМПА” абвяшчаюць Кірмаш праектаў для гарадоў і мястэчак Міншчыны!

Кірмаш праектаў – месца, дзе збіраюцца культурніцкія прапановы, іх аўтары і крытыкі. Гэта магчымасць падзяліцца сваёй ідэяй і натхніць іншых людзей разам яе рэалізаваць.

Удзел у Кірмашы праектаў можа прыняць кожны жыхар Міншчыны любога ўзросту і роду дзейнасці. Афарміце вашу ідэю ў прэзентацыю ў PowerPoint. Прэзентацыя павінна ўключаць наступныя звесткі:

– інфармацыю пра аўтараў (прозвішча, імя, арганізацыя) і як з вамі звязацца (нумар тэлефона/электронная пошта/сацсеткі);

– назву ідэі/праекта;

– мэту і сутнасць ідэі;

– чаму і каму гэта неабходна;

– калі і дзе ідэя мусіць рэалізавацца;

– якія рэсурсы ў вас ужо ёсць і якія шукаеце? (каманда, партнёры, бюджэт).

**Дасылайце свае ідэі да 27.05.2018 уключна на адрас: kirmash.praektau@gmail.com**

Фінальная прэзентацыя праектаў адбудзецца 30 мая ў Маладзечне.

Пасля выніковай імпрэзы экспертная рада адбярэ найбольш цікавыя і абгрунтаваныя праекты, з прадпрымальнай камандай і канкрэтнымі крокамі па рэалізацыі, новымі падыходамі да вырашэння праблем і культурна-сацыяльным кірункам. Кампанія “Будзьма беларусамі!” і “СІМПА” акажуць усю магчымую дапамогу: ад кансультацый да рэалізацыі.

**Паводле паведамлення арганізатараў.**




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **75617.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **61385.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўдзі А6, 2001 г.в., 2,5 аб'ём, дызель. Т. (8-029) 5676488.
- Бампер задні для аўтамабіля АКА. Т. (8-029) 6051169.
- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- ВАЗ 2106, 1999 г.в., 1,6Б, прабег 28 000 км. Т. (8-044) 4703638.
- Вольва 460, 1995 г.в., 1,9 ТДІ, бардовы седан, 1500 руб. Т. (8-029) 5544512.*
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- Матацыкл Хонда НТВ-650 спорт-турыст. Нядорага. Т. (8-044) 7586735, (8-029) 7232767.
- Опель-Рэкорд па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Рэно-Меган 1997 г. па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Скутар Хорс-Мотарс 0-56, 2013 г.в., прабег 3095 км, цана 1000 руб. Т. (8-0176) 707459, Лайф (8-029) 5703793.*
- Форд-Транзіт, 1997 г.в., 2,5Д,грузавы вагон. Т. (8-029) 7682769.*
- Шкода-Актавія, 2010 г.в., цёмна-шэры, прабег 180 тысяч. Аўтамат. У выдатным стане.17 тысяч рублёў + зімовая гума з дыскамі. Т. (8-029) 5026948.
- Электраскутар новы з гарантыяй. Зараджаецца ад 220 V, мае далёкасць да 60 км, магутнасць 1500 W. Т. (8-029)1383623.

### КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДАРАГА! Т. (8-025) 9414091.***
- Аўто дорага, у любым стане, ацаню шчодра – не пашкадуеце! Т. (8-025) 5277913.*
- Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*
- Аўто 0,01 – 4,0 л, іншамарку 1986-2018 г.в у любым стане, можна аварыйную. Т. (8-029) 9078269, (8-033) 3495240.*
- Аўто ВАЗ, Масквіч, Волга, УАЗ, старую іншамарку і інш. у любым стане. Т. (8-029) 5261974.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*
- Аўто. Можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*
- Каталізатар б/у. Т. (8-029) 9357762.*

### ІНШАЕ

- Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

- Міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю.І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-пагрузчык, міні-экскаватар, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*
- Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*
- Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772 Т. ()8-029) 6926052.*



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 2-пакаёвая кватэра альбо абмен на г. Мінск з даплатай. Т. (8-025) 5296374.*
- 2-пакаёвая кватэра на 3 паверсе. Т. (8-033) 3209338.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына, 17/1, 1/5, 1974 г.п., 41 кв. м, 36 тысяч руб. Т. (8-029) 8221212.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Савецкай, 91. 59 кв. м, 5 паверх. Т. (8-029) 3345737.*
- 2-узроўневы дом у Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*
- 3-пакаёвая кааператыўная кватэра ў Вілейцы па вул. Л. Талстога, д. 49, 3 паверх. Т. (8-01771) 28602.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Ясінскага, 5 паверх, 68 тысяч руб., торг да месца. Т. (8-033) 3985801.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Усё па тэлефоне. Т. (8-029) 3555444, (8-029) 6050605.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Старым Мядзеле. Т. МТС (8-029) 8732688.
- Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*
- Дача ў СТ "Родничок", 12 км ад Маладзечна, электрычнасць, вада, пабудовы, возера, лес. Т. (8-01796) 536715.*
- Дом драўляны жылы ў Маладзечне. Газ, водаправод. Т. (8-029) 6691789.*
- Дом жылы ў Вілейцы. Т. (8-029) 5062087, званіць з 17:00 да 22:00.
- Дом з усімі выгодамі. Т. (8-033) 3209338.*
- Дом новы ў прыгарадзе Вілейкі паблізу вадасховішча з усімі выгодамі: газ, вада, каналізацыя, інтэрнэт. Т. (8-029) 1282167.
- Дом у аг. Маркава Маладзечанскага раёна. Патрабуе рамонту. 0,24 га, калодзеж, побач газ. Т. (8-0176) 755866.
- Дом у в. Куранец, пабудовы, сад 20 сотак. Т. (8-029) 7603076.*
- Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*
- Дом у в. Сінькі Смаргонскага раёна. Т. (8-029) 1704380.*
- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*
- Дом у в.Асавец. Т. (8-029) 8490457, (8-01771) 25003.
- Домік садовы блочны ў кааператыве "Брыльянт", каля вёскі Ласі, участак, дрэвы, кусты. Нядорага. Т. (8-033) 6407558.*
- Зруб 2-павярховы, пабудаваны ў 2015 г., памер 6х6 м, цана дагаворная. Т. (8-0176) Вэлком (8-029) 6640860.
- Кватэра ў Вілейцы па вул. Незалежнасці, 10, корпус 2. Цана дагаворная. Т.МТС (8-029) 2524822, (8-01771) 25465.
- Паўдома ў Вілейцы, вул. Лаўрыновіча, 5. Т. (8-029) 2852295.*
- Участак 10 сотак у СТ "Надзея-2000" (Краснае) з блочным гаражом. Магчымае сезоннае пражыванне. Электрафікаваны. Абнесены металічнай агароджай. 10 хвілін пешшу да ст. Ласі. Асфальт 50 м ад участка. Яблыні, вішня, малíннік. Вышлю фота. 9900 руб. Т. (8-029) 6939633.*

### ЗДАМ

- Пакой у Маладзечне. Т. МТС (8-029) 5719435.*



## ПАСЛУГІ

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- БУСы па 1,5 тон. Адкрыты бартавы і тэнтаваны. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*
- Мерсэдэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*
- Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- Фура 20 тон, адкрытая бартавая. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077311. Т. (8-029) 1921299.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Агароджы з прафнасціла, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, двухстворкавыя. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*
- Адлівы, парасонікі для дымаходаў, даборныя элементы даху і інш. з бляхі. Дастаўка. УНП КА 6608431 Т. (8-029) 6051169.
- Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Хутка. Якасна. ІП Бізюк С.І. УНП 191927410. Т. МТС (8-029) 7860317.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Вырабы з металу любой складанасці. Вароты (адкатныя, двухстворкавыя (распашные), зварныя). Агароджы, брамкі, лесвіцы міжпавярховыя, казыркі, поручні, мастацкая коўка і інш. Даступныя цэны. Якасная работа. ІП Стрыга Ю.С. УНП 691201543. Т. (8-029) 6868755.*
- Добраўпарадкаванне месцаў пахавання. Устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 3469417.*
- Драбленне пнёў любога дыяметра. Хутка, якасна, нядорага. ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*
- Зборка мэблі. Пірагоў А.А. КА 0523327. Т. (8-029) 2637143.*
- Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*
- Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*
- Прамысловы альпініст. Уцяпленне кватэр, рамонт швоў, фасадаў. Адкосы, казыркі, адлівы, дахі балконаў, вадасцёкавыя сістэмы. Рамонт, мантаж. Любыя вышынныя работы. Гарантыя – 3 гады. ІП Глаткі А.А. УНП 692021425. Т. (8-033) 3020545.
- Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*
- Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*
- Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*
- Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў "Атлант", "ВЕКО", "Норд" "Індэзіт". ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*
- **СПІЛОЎВАННЕ, АБРЭЗКА ДРЭЎ**. Толькі бяспечныя метады працы. Прафесійная праца супрацоўнікаў. Кансультацыя і ацэнка **БЯСПЛАТНЫЯ**. Працуем больш за 6 гадоў. Спілоўванне + драбленне + копка – **СКІДКА**. ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*
- **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*
- Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*



## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- **АДЛІВЫ**, канёк. Т. (8-029) 3286032, (8-029) 2715035.
- Блокі газасілікатныя, цэгла, блокі некандыцыя. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1998898, (8-033) 6989980.*
- Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*
- Сетка-рабіца, слупкі, вароты, брамка. Дастаўка. Устаноўка. ІП Сасновіч А.В. УНП 691896319. Т. (8-029) 5092596, (8-044) 5992596.*
- Цэгла (кірпіч) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*
- **ШТЫКЕТНІК** металічны. Т. (8-029) 3286032, (8-029) 2715035.

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

- Бульбакапалка да трактароў Т-25, Т-40, трохі б/у. Т. Вэлком (8-044) 5543365.*
- Матаблок МТЗ-06, прычэп, плуг, капалка і іншае, 2800 руб. Т. (8-029) 9062627.
- Сельгастэхніка: касілка, граблі, прэс, плугі, акучнік, культыватар, дыскі, саджалка, бульбакапалка. Т. (8-029) 7531741.*

- Трактар МТЗ-80, МТЗ-82. Т. (8-029) 7531741.*
- Трактар Т-40, навясное, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*
- Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

**Бытавая тэхніка**
- Халадзільнік "Атлант". Т. (8-029) 3395974.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



- Абанецкія карты "Трыкалор" – скідкі! Акцыі! Антэны спадарожнікавыя – вялікі выбар, нізкія цэны. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- Антэны спадарожнікавыя "Трыкалор", НТВ+, замена старых прыёмнікаў на новыя. ГПУП "Ліцераль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Мэбля**
- Канапа, 2 крэслы б/у. Т. (8-033) 6635795.
- Канапа-ложак на спружыннай аснове, мяккі "Сальвадор-Дуэт", новы. Т. (8-044) 4132597.*
- Ложак 2-спальны. Т. МТС (8-029) 2506958.
- Тахта 85х105, нядорага. Карніз 2 м, 3 м.Т. (8-033) 6206381.

**Музінструмент**
- Фартэпіяна б/у, у нармальным стане. Т. (8-01771) 29007 г.Вілейка.

**Жывёла, птушка, пчолы**
- Індык канвектар, 3-20 сутачныя. Т. (8-029) 6577665.*
- Індычаняты БІГ-6 і кураняты: бройлерныя КОББ-500, нясушкі, цацаркі. Дастаўка.Т. МТС (8-033) 6908397, Велком (8-029) 6938397.*
- Каза бязрогая, высокаўдойная, здаровая ў Валожынскім раёне. Т. (8-029) 6433476.
- Вуллі з пчаласем'ямі. Валожынскі раён. Т. (8-029) 6944819.
- Цяля 3 месяцы. Т. МТС (8-033) 6060499, (8-01772) 58920.

**Іншае**
- Батарэі чыгунныя, б/у, 40 і 60 см. Т. (8-029) 8789740.*
- Бульба насенная Уладар. Т. (8-029) 5537683.*
- Дровы, можна колатыя, гной. Т. (8-044) 7630245.*
- Сена. Т. (8-029) 6870898.*
- Стальны газавы кацёл "Лемакс" серыі "Прэміум" 12,5В. Т. МТС (8-029) 7532645.*

## КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**
- Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**
- **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Іншае**
- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Інструмент, прыстасаванні і іншае для металаапрацоўкі. Т. (8-029) 7553763.*
- Кнігу "Память", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*
- Рогі лася, аленя, любых памераў, можна з дэфектам альбо ў выглядзе вешалкі. Дорага! Заберу сам. Т. МТС (8-029) 5616569.*
- Рогі лася, аленя. Т. (8-029) 8552646.*

# ПРАЦА

## ПАТРАБУЕЦЦА
- **НАЙМУ ПАМОЧНІКАЎ, МУЖЧЫНУ І ЖАНЧЫНУ, ПА ПРЫБІРАННІ ДОМА І ЎТРЫМАННІ ТЭРЫТОРЫІ. Т. ВЭЛКОМ (8-029) 6092504.**
- Падсобны рабочы на сезон: бетон, земляныя работы. Т. (8-025) 7894666.

## ШУКАЮ РАБОТУ
- Устаноўка агароджаў. Зварачныя работы. Бетонныя работы. Кладка блокаў і г.д.Т. (8-044) 7556706, (8-029) 8521268.
- Шукаю падпрацоўку. Досвед: электрамантажныя работы. Будаўнічыя і аддзелачныя работы: афарбоўка, шпаклёўка, работы з гіпсакардонам, ламінат, вагонка і г.д. Т. Вэлком (8-029) 5526667.*
- Шукаю працу печніка. Т. (8-029) 6035930.*

"Рэгіянальная газета" шукае **рэкламнага агента**

Заробак неабмежаваны і залежыць ад колькасці арганізаванай рэкламы. Калі вы камунікабельныя, умееце падтрымліваць гаворку, настойлівыя і адказныя, то дасылайце сваё рэзюмэ на адрас reklama@rh.by.

*Шукаем тых, хто нас любіць. Настольki, каб разам працаваць*

"Рэгіянальная газета" адкрывае вакансію **ЖУРНАЛІСТА**

Ад вас – адказнасць, працавітасць, смеласць і крэатыўнасць. У адказ ад нас атрымаеце годны заробак, душэўны калектыў і магчымасць прафесійнага росту.

Калі гэта тое, што трэба, дасылайце рэзюмэ на адрас regionnews@rh.by.

# У Маладзечне ёсць унікальныя магчымасці для вымярэнняў

МАЛАДЗЕЧНА

**Асартымент тавараў і паслуг заўсёды пашыраецца. Але не заўсёды якасць прадукцыі адпавядае патрабаванням. Трэба кантраляваць іх адпаведнасць. Для кантролю праводзяць шэраг дакладных вымярэнняў.**

Для абароны спажыўцоў ад няякаснай і небяспечнай прадукцыі дзяржава ўстанаўлівае працэдуры пацвярджэння адпаведнасці. Тут за кожным дакументам стаіць комплекс работ, які абавязкова ўключае правядзенне вымярэнняў.

Ад 2001 года па рашэнні ЮНЭСКА 20 мая адзначаюць Сусветны дзень метралогіі.

### Магчымасць, аналагаў якой няма ў краіне

Каб забяспечыць адзінства вымярэнняў, служба дае магчымасць паверкі і каліброўкі сродкаў вымярэння, а таксама магчымасць адрамантаваць прыборы. Спецыялісты праводзяць работы па метралагічнай атэстацыі сродкаў вымярэння, выпрабавальнага абсталявання, распрацоўваюць методыкі метралагічнай атэстацыі і каліброўкі сродкаў вымярэння, методыкі атэстацыі вымяральнага абсталявання.

Каб задаволіць інтарэсы заказчыкаў, спецыялісты аддзела засвойваюць новыя накірункі ў галіне метралагічных паслуг і рамонту сродкаў вымярэнняў. У маладзечанскім цэнтры пашырылі магчымасці паверкі прыбораў уліку энергарэсурсаў. Для гэтага стварылі пакуль адзінае ў краіне рабочае месца, якое дазваляе праводзіць паверку і каліброўку расходамераў і цеплалічыльнікаў з дыяметрам да 300 мм і максімальным расходам да 1000 м³/г.

Вагапаверачная лабараторыя – адна з апошніх навінак маладзечанскіх метролагаў. Яна дазваляе аператыўна адкалібраваць і паверыць аўтамабільныя вагі да 60 тон.

### У маладзечанскім цэнтры ладзяць дзень адкрытых дзвярэй

Метролагі засвойваюць новыя метады метралагічных работ, што вымагае новага эталоннага абсталявання з выкарыстаннем камп'ютарнай тэхнікі.

Паслугі Маладзечанскага ЦСМС неад'емныя для многіх працэсаў у разнастайных сферах дзейнасці. Мы імкнёмся запрашаць на працу граматных, зацікаўленых у развіцці, перспектыўных супрацоўнікаў. Мы беражом наш асноўны касцяк метролагаў, якія могуць падказаць, навучыць. Дзякуючы ім перадаюцца галоўныя прынцыпы работы: адказнасць, імкненне выконваць самую складаную працу якасна і ў тэрмін, гатоўнасць дапамагчы калегам.

Калектыў аддзела праверкі заўсёды гатовы прыйсці на дапамогу заказчыкам і дапамагчы ў пытаннях праверкі сродкаў вымярэння.

**Атрымаць кансультацыю можна па адрасе: Маладзечна, вуліца Янкі Купалы, 106 ці па тэлефоне (80176) 55-18-18.**

Больш поўную інфармацыю пра тэхнічныя магчымасці аддзела паверкі і каліброўкі сродкаў вымярэнняў можна атрымаць на афіцыйным сайце цэнтра: www.mldcsms.by..

Напярэдадні прафесійнага свята 20 мая Маладзечанскі ЦСМС праводзіць семінары і дзень адкрытых дзвярэй для спецыялістаў метралагічных службаў, службаў якасці і вытворчых лабараторый прадпрыемстваў.

**Павел ШАШУРА,**
**начальнік сектара Маладзечанскага цэнтра стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі.**




# Увага! Газаправод – падземная небяспека




**Нягледзячы на работу, што праводзіцца па прафілактыцы парушэнняў пры выкананні будаўнічых і земляных работ, маюць месца выпадкі пашкоджання падземных газаправодаў. У выніку адбываецца адключэнне спажыўцоў ад газазабеспячэння, наносіцца матэрыяльная шкода, ствараецца аварыйная абстаноўка, узнікае пагроза здароўю і жыццю насельніцтва, персаналу, які працуе.**

Каб такога не адбылося, уздоўж газаправодаў устаноўлены наступныя ахоўныя зоны (ад восі газаправода з кожнага боку): для нізкага ціску – 2 метры, сярэдняга ціску – 4 метры, высокага ціску II катэгорыі – 7 метраў, высокага ціску I катэгорыі – 10 метраў.

Філіял ВУ "Маладзечнагаз" звяртае ўвагу кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўладальнікаў прыватных дамоў на захаванне мер бяспекі пры правядзенні земляных работ у ахоўных зонах газаправода.

Згодна з "Палажэннем аб парадку ўстанаўлення ахоўных зон аб'ектаў газаразмеркавальнай сістэмы, памерах і рэжыме іх выкарыстання", зацверджаным пастановай Савета Міністраў РБ ад 06.11.2007 №1474, для пачатку работ у месцах размяшчэння газаправодаў як юрыдычным, так і фізічным асобам неабходна атрымаць пісьмовы дазвол газазабеспячэнскай арганізацыі, удакладніць на мясцовасці, дзе размешчаны газаправод, для чаго папярэдне (за суткі) выклікаць прадстаўніка газавай гаспадаркі. Перад пачаткам раскопак для ўдакладнення размяшчэння газаправодаў і глыбіні іх залягання выканаўцам работ павінна быць зробленае шурфаванне (кантрольнае ўскрыццё) газаправода пад наглядам прадстаўніка філіяла ВУ "Маладзечнагаз". Пры гэтым выканаўца работ павінны забяспечыць абазначэнне трасы газаправода і збудаванняў на ім, іх захаванасць на ўвесь перыяд правядзення работ.

**У ахоўных зонах газаправодаў ЗАБАРАНЯЕЦЦА:**

- устаноўка фундаментаў будынкаў і збудаванняў;
- распрацоўка грунту на адлегласці менш за 2 метры ад восі газаправода, сцен ГРП і іншых газавых збудаванняў;
- самавольна адкрываць люкі газавых калодзежаў, адкрываць і закрываць краны і засаўкі, устройваць звалкі, выліваць агрэсіўныя вадкасці, складзіраваць матэрыялы і абсталяванне ўздоўж трасы падземнага газаправода ў межах 2,0 м па абодва бакі ад яго восі;
- садзіць дрэвы і кусты ў межах 1,5 м па абодва бакі ад газаправода, разводзіць агонь.

**ПАМЯТАЙЦЕ!** Парушэнне патрабаванняў "Палажэння аб парадку ўстанаўлення ахоўных зон аб'ектаў газаразмеркавальнай сістэмы..." і пашкоджанне газаправода можа прывесці да выбуху, чалавечых ахвяр, матэрыяльных страт і спынення забеспячэння газам спажыўцоў, што цягне за сабой складанне пратакола на вінаватую асобу з накладаннем штрафу ў памеры ад трыццаці да пяцідзесяці базавых велічынь.

**Выплата штрафу не вызваляе вінаватых ад пакрыцця нанесенай матэрыяльнай шкоды ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.**

Філіял ВУ "Маладзечнагаз". УНП 100 008 077

# "Ногі гудзелі, але галава нібы ачысцілася ад усяго кепскага"

## На Валожыншчыне зладзілі другую ноч танцаў

ВАЛОЖЫН

**Свята "У маёвым садзе" прайшло ў ноч з 12 на 13 мая ў сядзібе Васіля Грыня "Засценак Скрыплеў".**

Ноч танцаў арганізаваў этнаграфічны клуб "Кола" пад кіраўніцтвам **Волі Трубач** другі год запар.

Столькі чыстай вясковай рамантыкі вы б не знайшлі нідзе! Пад майскімі дрэвамі іграюць музыкі, выступаюць спевакі, побач парыць самавар, непадалёк сядзяць мудрыя бабулі, гарыць касцёр, а зверху празрыстае неба, поўнае зор.

### "Ногі вымылі – і ў скокі!"

На маёўку запрашаюць мясцовых бабуль – каларытныя і дасведчаныя, яны параўноўваюць моладзевае свята з тымі, што ладзілі ў іх маладосці.

З суседняй Дубіны прыехалі **Ніна Іосіфаўна**, **Лідзія Аляксандраўна** і **Тамара Уладзіміраўна**.

– Нас запрасіў Васіль – мы яго ўнукам завём. Для моладзі гэта можа і ў навіну, а для нас – стан душы. Мы так жылі. Вельмі рады, што гэта аднаўляецца. Цудоўную справу робіць моладзь, проста цешымся з іх. Многія песні падабаюцца. Мы штогод дорым адну са старадаўніх мясцовых песень у рэпертуар арганізатарам. Гэтыя песні захавалі ад прапрабабуль, і вось перадаём.

Аднак, кажуць бабулі, сучасныя вечарынкі крыху адрозніваюцца ад тых, дзе танцавалі яны:

– У нашай маладосці было крыху не так, кажа Ніна Іосіфаўна. – Вечарынкі былі больш закрытыя. Запрашалі тых хлапцоў і дзяўчат, якіх хацелі пачуць. Хлопец абавязкова праводзіў дзяўчыну, і ў яе пасля ўсе пыталіся: "Хто цябе падводзіў?" Танцавалі з рознымі хлопцамі, трэба ж было і прыгледзіцца, а вось падводзіў адзін.

Працавалі з брыкетам, цэлы дзень варочалі. З працы чуць ідзеш. А як вярнуліся – ігрышча. Рабочыя боты скінулі, да карыта падышлі, ногі вымылі – і ў скокі!

– У кожнай вёсцы музыканты, ідзеш – там іграюць, там спяваюць, разносіцца! – прыгадвае Тамара Уладзіміраўна. – Часам строілі штукі – маглі дзверы звонку замкнуць ці яшчэ што. Танцавалі кракавяк, розныя полькі, каробачку, вальс. Вечарынкі ладзілі кожны дзень, моладзі ж трэба было нечым займацца. На іх і гулялі ў фанты, бутылачку. Як выпадзе цалавацца са сваім хлопцам – то і добра, а як з чужым – што ж, прыходзіцца! А малых на танцы не пускалі. У 16-17 пачыналі хадзіць. Жанатыя асобна збіраліся.

### "Дзеля Алеся Лася я гатова на ўсё"

На свята прыехалі госці з розных гарадоў Беларусі. Падзяліцца ўражаннямі мы папрасілі выхавальніцу **Эдзіту Бранцэвіч** са Смаргоні:

– Я тут упершыню. Сёлета да апошняй хвіліны не ведала, ці атрымаецца, бо вельмі далёкая і цяжкая дарога. Але дзеля лірніка Алеся Ласі я была гатова на ўсё! Паглядзела на яго ў праграме "Вяскоўцы", дзе апавядаў пра дуду, ваўкоў, чарадзействы, то настолькі захацела яго пабачыць, што не даравала б сабе, калі б не прыехала. Прыехала адна, хаця і разумела, што ўсе будуць сваімі групамі, парамі. Баялася, што будзе самотна, але Алесь Лось перамог! Тут сустрэла шмат знаёмых. Вельмі люблю танцаваць з любой нагоды. Сваіх маленькіх выхаванцаў вучу танцам. Хоць яны і мітусяцца, як мухі, але ўражанні і эмоцыі атрымліваюць. Не ведаю, ці змагла б зладзіць нешта падобнае на Смаргоншчыне, тут такія моцныя арганізатары. А вось калі б дзяўчаты прыехалі да нас з такой ноччу, была б рукамі і нагамі за.

### Пасмакуйце беларускую зямлю

Паміж танцамі госці падыходзілі да століка з самаварам. **Зміцер Мурашка** разам з жонкай **Юляй Літвінавай** частавалі чаем, гарбатай, слодычамі.

– Я архітэктар, некалькі год таму купілі дом у лесе на Валожыншчыне, расказвае гаспадар. – Месца багатае на расліны і зёлкі, таму ўсе на нашай пляцоўцы з уласнай зямлі – розныя зборы гарбаты, сочыва, салодкія пачастункі, сіропы. Частуемся смакам сваёй зямлі самі і частуем іншых.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

І музыкі, і танцоры трымаліся да самай раніцы.

### "Будзем рабіць драўляную танцпляцоўку"

**Цімафей Акудовіч** з Мінска дапамагаў з арганізацыяй свята. Ён падзяліўся тым, што можна палепшыць налета:

– Не магу сказаць, што арганізацыя вымагала вялізных высілкаў. Так, папрацавалі. Зрабілі, можа, і не ўсё, што хацелі. Напрыклад, не хапіла сіл на драўляную танцпляцоўку. У наступным годзе трэба зрабіць. А колькасць гасцей была такой, як у нашых самых аптымістычных жаданнях. Калі з'язджаў, у нагах была прыемная стомленасць. На свяце былі розныя людзі, калі разумееш логіку танца, трохі распрацаваны, то любы лёгка падхопіш.

### "Нібы трапляеш у кіно"

Адна з арганізатараў свята **Ганна Клімашэўская** спецыяльна паехала на свята не ў строі – таму што зусім не абавязкова на народныя танцы прыходзіць у народным касцюме.

– Гэта чароўная ноч, такая прыгожая раніца была! – дзеліцца ўражаннямі дзяўчына. – Прыгожая жывая музыка, ты танцуеш у пары, вакол усё размываецца – і нібы трапляеш у кіно. Ногі гудзелі добра, але на раніцу спаць зусім не хацела і адчувала сябе так лёгка, нібы ўсе кепскія думкі сышлі, застаўся нейкі свет і моцны пазітыўны зарад. Нібы адбылося ачышчэнне. Важна выбіраць, якім чынам ты адпачываеш. Мы адпачывалі так.

### "Такая культура нас выведзе"

Гаспадар сядзібы **Васіль Грынь** разважляў, увесь час выціраючы пот:

– Калі б і ўтрох сабраліся, усё б атрымалася. Мы ніякіх камерцыйных мэтаў не ставілі. Прыемна, што людзі, якія прыехалі, ці добра абазнаныя, ці ім хочацца даведацца глыбей пра танцы і спевы. Многія ўсцешаныя, што наша культура адраджаецца. Колькі ў мяне хопіць здароўя, буду гэта рабіць. Менавіта гэта культура ў час айфонаў і машын будзе нас яднаць і выведзе. А я хош не хош буду ўсю ноч танцаваць. Тут жа хто каго адолее і хто стоміцца першы – танцоры ці музыкі.

Зоя ХРУЦКАЯ.

# Дзеля прыгажосці часам ахвяравала любімым баскетболам

## "Міс фотамадэль" са Смаргоні – пра ўдзел у конкурсе прыгажосці "Міні-міс і міні-містэр"

СМАРГОНЬ

Дзевяцігадовая **Алеся Талькоўская** са Смаргоні захапляецца спортам, любіць фатаграфавацца, выдатна вучыцца ў 3 "Б" класе смаргонскай школы №7, паспяхова ўдзельнічае ў алімпіядзе па беларускай мове.

А нядаўна паспрабавала сябе ў новым накірунку – паўдзельнічала ў конкурсе прыгажосці "Міні-міс і міні-містэр".



Фота з архіва Аксаны Ятхолкай.

Алеся падчас фотасесіі.

Конкурс ладзіў раённы Цэнтр культуры Смаргоні. У канцы сакавіка правялі адборачны тур. З 21 прэтэндэнта журы выбрала шэсць хлопчыкаў і шэсць дзяўчынак, якіх запрасілі да ўдзелу ў конкурсе 28 красавіка. Алеся Талькоўская аказалася сярод абраных. І нездарма. Рыхтавалася дзяўчынка сур'ёзна.

– Падрыхтоўка да конкурсу заняла амаль тры тыдні, – прыгадвае Аксана, мама Алесі. – Раніцай Алеся бегла на вакал, у абед – на ўрокі, а ўвечары – займацца з харэографам. Падтрымлівалі сяброўкі з баскетбольнай каманды. Асобны дзякуй – **Юліі Ушакевіч**.

Хоць часу шмат на што не хапала, але дзяўчынка перакананая: такая напружанасць была апраўданая дзеля ўдзелу ў конкурсе. Алесі прыйшлося прапускаць любімыя трэніроўкі па баскетболе, а часам нават адпрошвацца з апошніх урокаў у школе. Але настаўніца **Кацярына Страшынская** разумела сваю мегаактыўную вучаніцу і адпускала на рэпетыцыі. За Алесю хваляваўся ўвесь трэці "Б" разам з настаўніцай.

Конкурс уключаў у сябе візітоўку-знаёмства, прадстаўленне сваёй сям'і і сямейных захапленняў. Нехта прэзентаваў сваю сям'ю як творчую, нехта – як вясёлую. Некаторыя мамы з дочкамі выходзілі ў аднолькавых сукенках.

Алеся са старэйшай сястрой **Ганнай** выйшлі на сцэну ў спартыўнай форме і з мноствам медалёў, паказаўшы, што іх сям'я – спартыўная. Старэйшая сур'ёзна займаецца дзюдо, сярэдняя – лёгкай атлетыкай і баскетболам.

Самым складаным, на думку Алесі і яе мамы, стаў творчы конкурс. Алеся чытала рэп, а дзяўчынкі з групы падтрымкі танцавалі.

– Адчувалася такая падтрымка з боку сябровак, – дзеліцца Аксана. – Тыя, хто не танцаваў, з глядацкіх месцаў падбадзёрвалі апладысментамі. Усё гэта было з аднаго боку весела, з іншага – хвалююча.

Чаму творчы конкурс для Алесі стаў самым складаным?

– Ведаеце, гэта надта складана, калі трэба спяваць, а ты не вельмі ўмееш, – шчыра прызнаецца Алеся. – Я ўдзячная **Дар'і Кавалёвай**, вакалістцы з нашага Дома культуры, якая за адносна кароткі час змагла навучыць мяне чытаць рэп правільна.

Дэфіле ў вячэрніх сукенках – той этап, што спадабаўся Алесі найбольш. Якая дзяўчынка не любіць прыгожыя ўборы?

Алеся не стала першай. І колькі б ні казалі пра тое, што галоўнае не перамога, а ўдзел, дзяўчынка плакала. Крыху суцяшаў атрыманы тытул "Міс фотамадэль". Фатаграфавацца Алеся любіць, на фота атрымліваецца ўдала.

– Дачка любіць фотаапарат, а фотаапарат – яе, – жартуе Аксана. – Алесю не трэба вучыць, як правільна ўстаць, як паглядзець і што рабіць.

Па словах Алесі, удзел у конкурсе хоць і засмуціў крыху, але прайшоў недарма. Дзяўчынка адкрыла ў сабе новыя таленты, набыла карысны досвед і новых сяброў.

Аксана ЯРАШОНАК.

# Першая выстава – і адразу ў цэнтры Мінска

## Мастачка з Вілейкі прэзентавала дабрачынны арт-праект

ВІЛЕЙКА

**Сабраць на адной выставе мадэльераў і візажыстаў, арганізаваць майстар-класы для дзяцей, зладзіць аўкцыён і атрыманыя грошы перадаць на дабрачыннасць – усё гэта атрымалася ў мастачкі Таццяны Мазанік.**

У нядзелю, 13 мая, арт-праект віляйчанкі пад назвай "Карціны міру і дабрыні" можна было наведаць у Мінску.

На выставе Таццяна не толькі сабрала майстроў-аднадумцаў, але і прэзентавала ўласныя карціны. Мастачка – выпускніца студыі **Эдуарда Мацюшонка**, таму не выключае, што аднойчы падобны праект прэзентуе і ў роднай Вілейцы.

– Работы, якія вы бачыце, малявала я сама і мая сяброўка, мастачка **Наталля Богдан**. Тут ёсць і акрыл, і алей, – кажа Таццяна. – Тыя работы, якія не прададуцца, мы аддадзім у дзіцячы дом і анкалагічны цэнтр. Няхай замест аднатонных сцен дзеці бачаць карціны!

Грошы, атрыманыя ад продажу работ, майстры перададуць на дапамогу дзецям, хворым на анкалогію.

– Для мяне важна дапамагаць тым, хто ў гэтым мае патрэбу, – тлумачыць арганізатарка такое рашэнне. – Тэма дзіцячай анкалогіі не тычыцца непасрэдна мяне ці маіх знаёмых, але гэта не значыць, што я павінна застаўацца ўбаку. Працягнуць руку дапамогі можа кожны.

### Сукенкі з партрэтам князёўны Рагнеды ад вілейскай дызайнеркі

Адна з удзельніц арт-праекта таксама родам з Вілейкі: мадэльер **Таццяна Уладыка** на выставе прадставіла аўтарскае адзенне.

– Некаторыя рэчы я шыла адмыслова для сённяшняга мерапрыемства, некаторыя – з маіх мінулых калекцый, – кажа Таццяна, паказваючы спадніцы і блузкі. – Паколькі ўсе адзежкі – у адным экзэмпляры, то я старалася зрабіць іх універсальнымі, каб яны пасавалі людзям з рознымі памерамі.

Дызайнерка выставіла таксама і сукенкі са сваёй дыпломнай працы: на іх дзяўчыну натхніла беларуская князёўна Рагнеда.

– Я спецыяльна вывучала арнаменты, характэрныя для таго часу, каб паўтарыць іх на сукенках, – каментуе Таццяна складаны геаметрычны ўзор, выкананы ўручную. – А пасля вырашыла зрабіць стылізацыю партрэта самой князёўны. Гэтыя сукенкі даліся мне няпроста, таму я іх не прадаю, а толькі выстаўляю.

На словы аб тым, што нават у Мінску вучаніцы Эдуарда Мацюшонка трымаюцца разам, Таццяна ўсміхаецца і кажа:

– Са сваімі працсей за ўсё працуецца, дзе б ты не жыў.

Аляксандра ПАРАХНЯ.



Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Таццяна Уладыка са сваімі творамі.

# Распаведы пра след на зямлі і нявесту з васьмю парасятамі

## У Вілейцы прэзентавалі кнігу Барыса Манцэвіча

ВІЛЕЙКА

**– Нашы пісьменнікі не спяць, працуюць, у іх з'яўляюцца новыя творы, – так пачала чарговае пасяджэнне літаб'яднання "Дамінанта душы" яго кіраўнік Антаніна Гарчакова.**




Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Кніга "Скрыжалі майго маленства" напісаная на аснове дзённікавых запісаў, якія Барыс Манцэвіч пачаў рабіць ад 1943 года.

Падставай для пасяджэння ў раённай бібліятэцы стала прэзентацыя кнігі **Барыса Манцэвіча** "Скрыжалі майго маленства: Ваенныя ўспаміны хлопчыка з Мёршчыны" і яго 85-гадовы юбілей. Чарговая кніга выйшла напрыканцы мінулага года. Яе пісьменнік прысвяціў сваёй маці **Аляксандры Міхайлаўне** – удзельніцы Першай і Другой сусветных войнаў, камісару партызанскага атрада "Масква", арганізатару і дырэктару першага дзіцячага дома ваеннага часу ў Мёрскім раёне.

### Скрыжалі – значыць, святое

Антаніна Гарчакова адзначыла вельмі ўдалую назву кнігі. Скрыжалі – значыць, дошка са свяшчэнным тэкстам, казала Антаніна Іванаўна. Тое, што піша ў кнізе аўтар – для яго святое. На думку выступоўцы, выдатна аформленая і вокладка кнігі: на шэрым фоне, што паступова святлее, з'яўляецца дарога.

– Кнігу прачытала за дзень, бо бачыла ў ёй свой лёс, – адзначыла Антаніна Іванаўна.

На думку пісьменніка і журналіста аўтара кнігі Барыса Манцэвіча, дзеці застаюцца дзецьмі і ў горы, і ў радасці. Вось чаму сярод успамінаў пра вайну ёсць як жахлівыя моманты, так і светлыя, нават гумарыстычныя.

### З паліцаямі віталіся па-беларуску

– Для мяне вайна пачалася з таго моманту, калі я ўбачыў, як у балота зваліўся наш падбіты самалёт, – прыгадаў аўтар. – Бачыш, гэта – вайна, – сказаў мне тады бацька.

У партызанскім атрадзе, куды трапіла ўся сям'я, хлопчык выконваў абавязкі сувязнога. Неяк, ідучы з сябрам на заданне, Барыс заўважыў паліцаяў. Як жа паводзіць сябе, каб не прычапіліся? Вельмі проста: трэба было загаварыць з імі па-беларуску.

– І вось мы падыходзім і кажам "Добры дзень!". А яны ў адказ "Добры дзень! Адразу бачна, што нашы хлопцы!" – прыгадаў Барыс Флоравіч. – Каб жа ведалі яны, што мы за хлопцы і куды ідзём.

### "Буду жаніцца з Валяй Канапелькавай. У яе парасят шмат"

Многія з прысутных адзначалі, што асабліва запомніліся ім апавяданні "Флорава крынічка" і "У пасаг – парасяты". Першае – філасофскі распавед пра тое, як важна чалавеку пакінуць след на зямлі. У канцы 1930-х гадоў бацька Барыса Манцэвіча, **Флор**, знайшоў і добраўпарадкаваў крынічку ў Старых Круках. Бацьку немцы расстралялі ў 1941. А вяскоўцы бралі з Флоравай крынічкі ваду яшчэ ў 1970-я і з удзячнасцю згадвалі Флора Данатавіча.

"Калі ты, Бора, вырасцеш, ці будзеш жаніцца?" – пыталіся бацькі ў маленькага сына. "Буду, – адказваў той. – З Валяй Канапелькавай. У яе парасят многа. А я іх люблю", – у гэтым кароценькім абразку, на думку большасці прысутных, праяўляецца прыродны гумар юбіляра.

– А я ж тую Валю, у якой было восем парасят, сустрэў праз 20 год, – падзяліўся Барыс Манцэвіч на прэзентацыі. – Ведаеце, што яна мне сказала? А я ж, Барыс, замуж так і не выйшла...

### Таццяна Захарыч: выданне кнігі Барыса Манцэвіча – падзея ў культурніцкім жыцці

Некаторыя з выступоўцаў выказалі думку, што кнігу "Скрыжалі майго маленства" варта шырока прадстаўляць для моладзі, расказваць пра яе ў школах. Ідэю падтрымала дырэктар Вілейскага цэнтра эстэтычнага выхавання **Таццяна Захарыч:**

– Абавязкова запросім Барыса Флоравіча да нас у цэнтр. Ад мінулай сустрэчы ў супрацоўнікаў і выхаванцаў засталіся вельмі цёплыя ўспаміны. Кнігу пакуль не паспела прачытаць цалкам. Але ўжо бачна, што на гэтых старонках – гісторыя сям'і і гісторыя радзімы. Выданне такой кнігі – сапраўдная падзея ў культурніцкім жыцці Вілейшчыны. Дзякуй вам за тое, што вы – беларус.

Таццяна Мікалаеўна прыйшла на сустрэчу з падарункам для юбіляра – кнігай свайго любімага пісьменніка Янкі Сіпакова. Падарунак аказаўся не выпадковым.

– З Янкам Сіпаковым мы вучыліся разам. Менавіта дзякуючы яму я стаў пісаць гумарыстычныя творы. Спачатку адправіў у "Вожык", дзе працаваў Сіпакоў, некалькі чужых анекдотаў. Іх не надрукавалі. Сіпакоў сказаў, што магу пісаць уласныя. Я паспрабаваў – і атрымалася, – падзяліўся са сваімі гасцямі Барыс Манцэвіч. – "Можаш сам жартаваць, дык жартуй", – сказаў тады Сіпакоў.

### Анатоль Капцюг: галоўнае, не ўзнагароды і званні, а дзіцячыя ўспаміны

"Ён быў ужо ў Саюзе журналістаў, калі пад стол хадзіў я пехатой", – такімі радкамі з уласнага жартоўнага верша прывітаў Барыса Манцэвіча яго сябар калегапаэт **Уладзімір Цанунін**. Ён таксама сказаў пра высокі ўзровень новай кнігі, вельмі жывую натуральную мову. Адзначыў, што вельмі дарэчы было б дапоўніць успаміны фотаздымкамі. Падарыў Барысу Манцэвічу ўласную кнігу вершаў, што выйшла на днях.

– Калі чытаеш такія кнігі, як "Скрыжалі майго маленства", разумееш, што галоўнае ў жыцці не ўзнагароды і дасягненні, а дзіцячыя ўспаміны, – падсумаваў мастак і краязнаўца **Анатоль Капцюг**.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

19 мая, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +13 / +20 | | +14 / +20 | | +15 / +19 | | +10 / +17 | |
| | 735 | ↖ 2 | 737 | ↘ 5 | 742 | ↓ 6 | 745 | ↙ 4 |
| Вільня | +11 / +21 | | +13 / +16 | | +11 / +17 | | +8 / +18 | |
| | 742 | ↙ 1 | 745 | ↘ 7 | 750 | ↓ 5 | 752 | ↙ 4 |

Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | Усход, захад па Маладзечне

Усход 5.01
Захад 21.16
Даўжыня дня 16.15

Усход 8.47
Захад 0.35
Квадра 1

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +11 / +21 | 743 | ↘ 3 |
| Гродна | +15 / +17 | 749 | ↘ 7 |
| Мінск | +14 / +20 | 737 | ↘ 5 |
| Магілёў | +15 / +22 | 742 | ↘ 2 |
| Брэст | +14 / +19 | 748 | ↘ 7 |
| Гомель | +11 / +20 | 746 | ↓ 4 |

● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

НАРАЧ

Мінімальная тэмпература -0,3 °C у 2012 годзе
Максімальная тэмпература +28,9 °C у 1979 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 14 мм у 2014 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

Адкрыццё новай музейнай экспазіцыі "Горад і яго жыхары", здымкі Беркі Бермана і экскурсія ў майстэрню фотамастака, стварэнне ўласнай афішы і чай у партызанскай зямлянцы. Што яшчэ чакае вілейчан у ноч музеяў, чытайце ў наступным нумары.



● ПРОСТА АНЕКДОТ

– 25 год, а паводзіш сябе як дзіця!
– Няпраўда. Ой, глядзі! Арэлькі свабодныя!

***

– Грошы ёсць?
– Не.
– А калі знайду?
– Буду вельмі ўдзячны.

***

Няпраўду кажуць, што з грашыма цяжка развітацца. Куды цяжэй з імі сустрэцца.

***

– А колькі мне жыць засталося?
– Ку-ку! Ку-ку!
– Доктар? З вамі ўсё ў парадку?

## Заканчваем прымаць бланкі акцыі "Дзясятачка"

**У панядзелак, 21 мая, у 12:00 мы заканчваем прымаць бланкі акцыі "Дзясятачка". Скарыстайце апошнюю магчымасць.**

Дашліце адзнакі, зробленыя цягам усяго года, але на кожную адзнаку неабходны асобны бланк. Удзельнічаюць толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Той, хто даслаў найбольш бланкаў, атрымае планшэт. Вучні з класа, якія былі самыя актыўныя, пойдуць усе разам у піцэрыю.

Калі ў вас ёсць яшчэ пытанні па акцыі, задавайце іх нам па пошце, тэлефоне 53-78-04.

Калі вы перадавалі бланкі ці дасылалі па пошце кожны тыдзень, то вы сярод тых, хто атрымае невялікія дадатковыя падарункі.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце. Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/50/18289/.

Бланкі дасылайце на адрас: 222307, г. Маладзечна, вуліца Вялікі Гасцінец д. 143, ГЦ "Тройка", офіс 518, "Рэгіянальная газета".

**Аддзел інфармацыі.**

### Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№20)

1. Імя, прозвішча________________________
2. Дата нараджэння ______________________
3. Клас
   Школа_______________________________
4. Населены пункт_________________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ______________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")___________
8. Дата атрымання адзнакі ________________
9. Імя, імя па бацьку ____________________
10. Прозвішча настаўніка _________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам___________
12. Подпіс настаўніка_____________________

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Якая мелодыя стаіць на вашым мабільным?



**Андрэй Рухля, кантралёр, Маладзечна:**
– "Дарожная" групы "Ленінград". Але без слоў, толькі мелодыя.



**Эльвіра Зайко, педагог, Маладзечна:**
– Класічная. "Месяцовая саната" Бетховена.



**Алеся Шашкова, маладая мама, Вілейка:**
– Песня Кіркорава пра настрой сіняга колеру.



**Ігар Палынскі, журналіст, Маладзечна:**
– Песня "Муза" беларускага гурта "Эксперымент-12".



**Вольга Місевіч, прадавец, Мядзел:**
– Звычайны "дзынь-дзынь".



**Дар'я Палынская, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– На рынгтоне стаіць тое, што і было пры атрыманні тэлефона – нейкая стандартная мелодыя, што нагадвае гучанне ксілафона.



**Дзмітры Гулецкі, электраманцёр, Вілейка:**
– Музыка з мультфільма "Ну, пачакай!". Але не звычайная, а кавер ў версіі "метал". Аўтар каверу – Міхаіл Собін.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№20 (1203) 18.05.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА "РоллПрынт", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 151. Падпісана ў друк у 9.00 17.05.2018.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.
Тэл.: (80176) 53-78-04 (рэклама, факс), 53-78-05 (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), 53-78-06 (журналісты), (8029) 573-28-47, 676-84-20. E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.